

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 12 (698)** **30 САКАВІКА 2005 г.**



**ВЯРХОЎНЫ СУД**
**Рэспублікі Беларусь**
вул. Леніна, 28, 220681, г. Мінск
тэл. (017) 226-12-06, факс (017) 227-12-25
E-mail: scjustrb@pmrb.by

**ВЕРХОВНЫЙ СУД**
**Республики Беларусь**
ул. Ленина, 28, 220681, г. Минск
тел. (017) 226-12-06, факс (017) 227-12-25
E-mail: scjustrb@pmrb.by

[illegible] № [illegible]

На № ________ ад ________

**Рада Грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы**
**імя Францішка Скарыны"**

**г. Мінск, вул. Румянцава, д.13**

Вярхоўным Судом Рэспублікі Беларусь узбуджана грамадзянская справа па скарзе Рады грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" на пісьмовае папярэджанне, вынесенае Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

У парадку падрыхтоўкі справы да судовага разгляду прадстаўніку аб'яднання неабходна з'явіцца ў Вярхоўны Суд (г. Мінск, вул. Леніна, 28) для гутаркі 25 сакавіка 2005 года ў 10 гадзін.

**Суддзя Вярхоўнага Суда – Г.К. Жукоўская.**

*25 сакавіка прадстаўнікі ТБМ наведалі Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь і мелі гутарку з суддзёй. Суддзя задала пытанні, якія яе цікавілі, прадстаўнікі ТБМ патлумачылі некаторыя свае пазіцыі. У прыватнасці ТБМ гатовае пайсці на міравое пагадненне з Мінюстам, калі апошні здыме пісьмовае папярэджанне. Суддзя прызначыла судовае паседжанне для разгляду справы па сутнасці на 5 красавіка.*

*Гутарка ішла ў добразычлівай атмасферы на беларускай мове. Аднак жа не трэба скідваць з памяці і беларускую прыказку пра тое, што, бывае, "мякка сцелюць ды ...". Пачакаем да 5 красавіка.*

## Суд запатрабаваў гаварыць па-руску

На паседжанні Першамайскага суда г. Менска па зыску да Белтэлерадыёкампаніі слонімскай грамадскай арганізацыі "Воля да развіцця" суддзя Лідзія Ціліца запатрабавала гаварыць па-руску. Міхась Варанец, які ўзначальвае грамадскую арганізацыю, з-за павагі да суда, мусіў пагадзіцца з гэтым, пры ўмове, што будзе гаварыць больш павольна, і папярэдзіў, каб тое не ўспрымалі, як ягоную няўпэўненасць, бо мова, на якой ён думае і штодня карыстаецца, – беларуская.

У сваім выступленні Міхась Варанец запатрабаваў ад Беларускага тэлебачання абвергнуць хлуслівую інфармацыю, якая прагучала з тэлеэкрана ў сакавіку 2004 г. у сюжэце пра Слонім. Грамадскую арганізацыю "Воля да развіцця" вінавацілі ў тым, што яна не плаціла падаткі, вяла сумніўную прадпрымальніцкую дзейнасць, фінансавала апазіцыйныя структуры.

Прадстаўнік грамадскай арганізацыі "Воля да развіцця", юрыст, сябра Таварыства беларускай мовы Юры Чавусаў не пажадаў пераходзіць на рускую мову. Ён аргументаваў свой выбар мовы і заявіў прагэст, кваліфікуючы дзеянні суддзі ўціскам яго канстытуцыйнага права. З гэтай прычыны суддзя была вымушаная перапыніць паседжанне, каб адшукаць сакратара, які адпавядае патрабаванням да дзяржаўнага службоўцы і валодае дзвюма мовамі.

На судзе я не пераставаў дзівіцца з "кампетэнтнасці" і "прафесіяналізму" абласных беларускіх чэкістаў і журналістаў Беларускага тэлебачання. Вырашылі "патапіць" аўтарытэтнага слонімца, журналіста, пенсіянера Міністэрства абароны, былога вайскоўца-афганца. Не зважаючы ні на якія юрыдычныя, маральныя, этычныя каноны, прыніжалі, аблілі брудам. Вось ён, маўляў, які ваш Міхась Варанец: прадпрымальнік, стварыў і фінансуе сумніўныя арганізацыйныя цэнтры, таму і слонімскія сцены ў надпісах "Зубр". Гэтыя сцены паказвалі ў тэлесюжэце, каментуючы, што нарэшце кампетэнтныя органы выявілі злачынцу, і на гэтым прадпрымальніцкая дзейнасць яго будзе скончана.

А між тым на папярэдніх судах ужо было даказана, што пад уціскам некага на мясцовую падатковую інспекцыю ўзнікла "непаразуменне", апраўдалі арганізацыю, якая ніколі не займалася камерцыйнай, прадпрымальніцкай дзейнасцю, тым больш, яе старшыня. Арганізацыя на працягу дзесяцігоддзя вяла дзейнасць у адпаведнасці з законам, статутам, далучала дзетак у гуртку па інтарэсах пад кантролем аддзела адукацыі. Тым не менш, Беларускае тэлебачанне адмаўлялася даць абвяржэнне сваёй лухты і паклёпу, узведзеных на Міхася Варанца.

На апошнім судовым паседжанні Беларускаму тэлебачанню не ўдалося выйсці сухім з вады. Хлусня была настолькі відавочная, што суддзя Лідзія Ціліца вымушана была задаволіць зыск Міхася Варанца. Але часткова. Просьбу даць яму слова на тэлебачанні суд не задаволіў.

***Мікола Лавіцкі,***
***старшыня***
***Рэвізійнай камісіі ТБМ***

# Аляксею Марачкіну - 65

30 сакавіка спаўняецца 65 гадоў з дня нараджэння беларускага жывапісца Аляксея Марачкіна.

Аляксей Марачкін нарадзіўся ў в. Новая Слабада Чэрыкаўскага р-на Магілёўскай вобласці. Скончыў Віцебскі педінстытут і Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Выкладаў у Беларускай акадэміі мастацтваў, быў галоўным мастаком Мастацкага фонду Беларусі. Адзін з заснавальнікаў творчай суполкі "Пагоня".



У жыцці і творчасці Аляксей Марачкін стаіць на дакладна выверaных нацыянальных пазіцыях.

Яго партрэты выдатных дзеячоў Беларусі "Цётка", "Пачатак. Францыск Скарына", "М. Гусоўскі", "Вераніка і Максім", "Рагнеда", "Кірыла Тураўскі", "Сымон Будны", "Канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега" і інш. складаюць унікальную гістарычную галярэю беларускай нацыі.

*(Пра Аляксея Марачкіна чытайце на ст. 2-3.)*

# ПАМЯЦЬ ПРА БНР



24 сакавіка сябры лідскіх арганізацый ГА БНФ "Адраджэньне" і ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" ўсклалі кветкі да магілы міністра Беларускай Народнай Рэспублікі генерала ад інфантэрыі Цыпрыяна Кандратовіча ў Воранаве. Гэта адзіная магіла міністра БНР, якая знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі, і ўскладанне кветак да яе стала для лідскай грамадскасці ўжо добрай традыцыяй. Генерал Кандратовіч стаяў ля вытокаў стварэння ўзброеных сілаў БНР. Расейскімі гісторыкамі ён занесены ў спіс чатырох вялікіх здраднікаў Расійскай імперыі побач з баронам Менергеймам, гетманам Скарападскім, генерал-лейтэнантам Доўбар-Мусніцкім, якія займалі вельмі высокія пасады ў царскай Расіі, але перайшлі на бок нацыянальных рухаў сваіх народаў.

***Станіслаў Суднік.***



№ 12 (698) 30 САКАВІКА 2005 г. Наша слова

## Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў красавіку

| | | |
|---|---|---|
| Абакунчык Галіна | Зіноўева Святлана | Пшанічны Юры |
| Адынец Сяргей | Іванова Ніна | Пяткевіч Дзяніс |
| Аксак Валянціна | Ільніцкі Кірыла | Райчонак Ада |
| Аляхновіч Андрэй | Казлова Тамара | Рудакоў Алег |
| Андрэенка Таццяна | Казловіч Алена | Савельева Тацяна |
| Апяцёнак Мікалай | Канановіч Аляксандр | Савіч Валер |
| Атрашэнка Сяргей | Караленя Жанна | Сагановіч Ларыса |
| Багдановіч Юрый | Касая Ганна | Санько Яна |
| Брылеўская Наталля | Кацэвіч Ірына | Сацута Іван |
| Будай Людміла | Качан Алена | Селуянава Ала |
| Була Уладзімер | Кашалькова Марыя | Сівук Кацярына |
| Бульянкова Яніна | Кашэль Кастусь | Сідараў Сяргей |
| Вайцэховіч Зінаіда | Краснасельскі Дзяніс | Сільнова Людміла |
| Вайцэховіч Эдуард | Крэцкі Віталь | Скідан Аляксандр |
| Вайцяховіч Марыя | Кузьняцоў Канстанцін | Статкевіч Андрэй |
| Валадзько Вадзім | Кулаковіч Уладзімір | Стрыжак Андрэй |
| Валынец Алена | Кульбака Аляксандр | Сулецкая Ніна |
| Ваўкавец Яўген | Кульбака Аляксандр | Сцянук Валянціна |
| Вярбоўская Ірына | Курачыцкі Андрэй | Сяцко Таццяна |
| Вячорка Ірына | Курмель Ірына | Таболіч Алена |
| Гагалінская Людміла | Кусянкова Любоў | Тарарака Алена |
| Гапановіч Іван | Лавіцкі Мікола | Токць С. М. |
| Гарадовіч Ала | Леановіч Аляксандра | Труноў Віктар |
| Гарэлікава Тамара | Лічко Уладзімір | Тушынскі Дзяніс |
| Гасюк Марына | Лука Алена | Усціновіч Юры |
| Гладкая Анастасія | Лысая Наталля | Федуковіч Вольга |
| Гоеўская Алеся | Львова Ганна | Фясенка Іван |
| Грыгаркевіч Вадзім | Ляхоцкая Алена | Хаданёнак Марыя |
| Грынявецкая Надзея | Ляшчоў Віктар | Хадаровіч Галіна |
| Грынявіцкі Юрый | Ляшчук Святлана | Харытонаў Сяргей |
| Данільчанка Іна | Макарэвіч Пётр | Хлапянюк Наталля |
| Дарафейчык Ганна | Малец Надзея | Цехановіч Зміцер |
| Дарашкевіч Ягор | Малічэўскі Павал | Цярохін Уладзімір |
| Даўгашэй Галіна | Мамантава Любоў | Цярэшка Васіль |
| Дземідзенка Анастасія | Манько Алеся | Чарткоў Алег |
| Дзенісевіч Ніна | Марачкіна Ірына | Чырэц Дзмітры |
| Дзінгілеўскі Віталь | Марозава Наталля | Шапялевіч Валянціна |
| Дзьячкоў Алег | Марчук Дзмітрый | Шаўра Юры |
| Дзягілева Галіна | Маслюкоў Тэльман | Шашкель Ніка |
| Доўкша Ірына | Мельнікава Ала | Шруб Васіль |
| Дубіцкая Сцяпаніда | Міцынская Валянціна | Шук Надзея |
| Дулько Вольга | Панкоў С.А. | Шчыракова Ларыса |
| Дундалевіч Людміла | Папоў Ігар | Шыманскі Леанід |
| Ельяшэвіч Ірына | Парэчына Зінаіда | Яблонскі Зміцер |
| Завадская Алена | Плахатнюк Святлана | Яловік Павел |
| Занкевіч Вольга | Пушкіна Яніна | Яцэнка Вольга |

# ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА

***Падрыхтавала Ірына Марачкіна***

*(Працяг. Пач. у пап. нум.)*

**2004 год.**

**25 красавіка.**

У сталічным Доме літаратара адбыўся 2-гі Усебеларускі сход інтэлігенцыі, на якім з дакладам аб выключнай ролі беларускай мовы ва ўсіх грамадскіх працэсах выступіў старшыня ТБМ Алег Трусаў.

**28 красавіка.**

Сакратарыят прыняў заяву з нагоды пагрозы ліквідацыі Навуковага культурна-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны.

**Красавік.**

ТБМ накіравала лісты на імя старшыні Дзяжкантролю А. А. Тозіка, генеральнага пракурора В. У. Шэймана, прэм'ер-міністра С. С. Сідорскага, міністра адукацыі А. М. Радзькова, дырэктара Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў М. С. Фяськова з нагоды таго, што тэставыя заданні для выпускнікоў сярэдніх школаў падрыхтаваныя толькі на рускай мове.

**Травень.**

Праязныя дакументы па-беларуску ў Гародні — вынік ліставання ТБМ з гарадскімі ўладамі.

Берасцейскі, Гомельскі, Магілёўскі, Віцебскі выканкамы пацвердзілі, што плануецца пераклад праязных дакументаў на беларускую мову ў 2005 годзе, або па меры выкарыстання рускамоўнага варыянту.

**1-2 траўня.**

Адбыўся 5-ы кангрэс Асамблеі няўрадавых арганізацый Беларусі, на якім ад ТБМ удзел браў Дзяніс Тушынскі. Быў прыняты стратэгічны план Асамблеі.

**8 траўня.**

Падчас добраахвотнага платнага тэставання 41129 навучэнцаў абралі для здачы іспыту беларускую мову, у той час як рускую — 37689, матэматыку — 38199. У сувязі з гэтым сакратарыят прыняў заяву "Моладзь — за беларускую мову".

**14 траўня.**

У цэнтры беларускай культуры і мовы МДЛУ адбылася прэзентацыя першай у Беларусі прафесійнай праграмы праверкі арфаграфіі "Літара 1.0". Гэта плён працы калектыву навукоўцаў, мовазнаўцаў і практыкаў: Генадзя Цыхуна, Зміцера Санько, Зміцера Саўкі, Уладзіміра Кошчанкі, Сяргея Шуры, Юрася Бушлякова, Югасі Валкавец. Ідэя стварэння праграмы належыць намесніку старшыні ТБМ — Сяргею Кручкову. Тэхнічная рэалізацыя — навуковага супрацоўніка Інстытута электронікі НАН Беларусі Фёдара Піскунова.

**22 траўня.**

Падчас святкавання 15-годдзя Таварыства беларускай культуры ў Літве адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар паэткі Наталлі Арсеневай. З ініцыятывы ТБМ дошка ўсталявана на будынку былой беларускай гімназіі ў Базыліянскіх мурах у Вільні. Скульптар — Алесь Шатэрнік, фундатар – сябра ТБМ Пятро Краўчанка і суполка ТБМ "Спадчына".

**29 траўня.**

На радзіме Ф. Багушэвіча ў Свіранах сіламі ТБМ Віленскага краю, а таксама актывістамі фальварку Свіраны праведзены Дзень беларускай паэзіі, мовы і малітвы па ўшанаванні памяці паэта. Падчас імпрэзы быў адкрыты Мемарыяльны знак Ф. Багушэвічу. Ён усталяваны на пастаменце з выявай скульптуры Маці Божай Ружанцовай. Малебен і асвячэнне Знака правёў біскуп Віленскай курыі а. Ёзас Тунайціс.

*(Працяг у наст. нумары.)*

Напярэдадні ягонага юбілею перачытвала артыкулы, напісаныя ў розныя гады пра нашага выдатнага мастака і беларускага грамадскага дзеяча Аляксея Марачкіна. Артыкулы розныя: грунтоўна – даследчыцкія, жыццёва – апісальныя, захоплена – апавядальныя – як жа, ўсе яны прысвечаныя сапраўды неардынарнаму творцу, пра якога яшчэ пісаць ды пісаць – манаграфіі, доктарскія дысертацыі...

Болем адгукнуўся адзін з іх, самы, бадай, таленавіты: яго аўтарка, Вераніка Чаркасава, летась загінула пры загадкавых абставінах, і ўсё гучней пачынаюць гаварыць пра палітычныя матывы ейнага забойства. Яе артыкул ад 29 лістапада 1999 г. называўся "Мастак, які малюе снег", і ў ім Аляксей выразна абазначыў глыбінную сутнасць інтэлігента: " У краіне, дзе знікаюць людзі, свабоднае волевыяўленне ёсць прэрагатывай толькі аднаго чалавека, а колькасць міліцыянтаў перавышае колькасць настаўнікаў , — гэта (быць апазіцыянерам – В.І.) натуральная пазіцыя сапраўднага інтэлігента і проста чэснага чалавека".

Аляксей Марачкін – такая ж неад'емная ад беларускага Адраджэння постаць, як, прыкладам, бел – чырвона – белы сцяг, праўда аб Курапатах, магутныя калоны пратэсту на пачатку 90- х гадоў і многае іншае, што светлай энергіяй ўлілося ў чорную немату нашага былога савецкага жыцця, перавярнула яго і дало штуршок для прарыву ў Незалежнасць.

Мы цяпер добра бачым усю ступень тае "чорнай нематы", яе шалёнае супраціўленне і нават новы наступ, што спрабуе знішчыць усё зробленае, вярнуць народ у сховы і сковы. І тут надзвычай важнай з'яўляецца пазіцыя беларускай інтэлігенцыі, яе здольнасць не адступаць, не паддавацца, не ламацца, як каласы пад віхурай.

Аляксей – з тых нязломных, што і ў мінулых стагоддзях гэтак жа рабілі сваю беларускую справу скрозь ўсе неспрыяльнасці часу і абставін.

Аднак час цяпер ужо другі, і зробленае ім, як і яго паплечнікамі - адраджэнцамі, дзесяцігоддзямі працуе не толькі ў полі культуры, але і ў агульнабеларускім энергаінфармацыйным полі, нараджаючы новую энергію і новае мысленне - тое, сапраўдна – беларускае, якое патроху выпрамляе сагнутыя душы і адкрывае прасцягі як мінулага, так і будучага. Няма, бадай што, ніводнай значнай мастацкай выставы ў краіне, дзе не ўдзельнічаў бы мастак Аляксей Марачкін.

Няма такой грамадска - палітычнай з'явы ў справе незалежнасці Беларусі, у якой не было б ягонай душы і сэрца. Ці гэта святкаванні Дня Волі ў гонар Акту 25 сакавіка, ці шэсці Чарнобыльскай жалобы, ці многае іншае, што, як звон, будзіць сэрцы людзей.

Нядаўна гаварыла я з адным аблашчаным уладай творцам. " А хто ўпаўнаважваў мяне на змаганне? – казаў ён. – Я жыву сам па сабе, і хто можа мяне судзіць? Я ж ствараю тое, што падабаецца людзям, і ў гэтым бачу сваё прызванне..." І ўсё ж пасля не вытрымаў, яго як прарвала: "Ведаеш, дзе я хацеў бы нарадзіцца? На Усходзе. Там, калі творца гаворыць, што гэта белае ( бо Бог даў яму здольнасць бачыць сутнасць рэчаў), то яму вераць. У нас жа табе на гэта скажуць: "Пайшоў ты, інтэлігент! Я сам ведаю, якога гэта колеру!" Таму я не хачу нічога нікому даказваць. Хочацца ім душыцца ў цемры і глядзець у вочы дурнаватаму начальніку – хай глядзяць, я тут не пры чым!"

Яму было ўсё ж балюча, ён адчуваў хісткасць сваёй пазіцыі – маўляў, мне няма справы да таго, што адбываецца навокал – прыніжэнне асобы, ганьбаванне інтэлігенцыі, зневага да мовы, росквіт жлобства і хлусні. Бо сапраўдны творца не можа не дбаць пра духоўны стан грамадства, пра здольнасць адрозніваць чорнае ад белага, пра выратаванне сваёй бессмяротнай душы ад спакусаў "чаркі і шкваркі."

Аляксей Марачкін, нягледзячы на ўсе складанасці жыцця сучаснага сумленнага інтэлігента ў таталітарнай краіне, можа глядзець на свет поглядам спакойным і годным – ён напоўніцу выконвае задачу, ускладзеную на яго Усявышнім: служыць свайму народу і – праз яго – чалавецтву. Нягледзячы на тое, што на стагоддзямі зняважанай зямлі не ўсе і сёння могуць зразумець Творцу:

***Хто абдзелены Богам –***
***Я сардэчнасьць аддам.***
***Чую чэрствасьць глухую:***
***Ай, нашто яна нам...***

Значнай з'явай у нашай культуры стала яго Аўтаманаграфія, на якой стаіць паэтычны псеўданім "Алесь Мара" і дзе сабраныя яго лепшыя мастацкія творы і яго вершы. Надзвычай удалы псеўданім — як першапачатковы акорд таго, што схаванае пад вокладкай.

А там сапраўды – мара. Мара мастака аб "краіне – браначцы", дзе пануе родная мова і дзе нацыя знайшла лепшыя шляхі для свайго свабоднага жыцця, а не прыгнечана згінаецца пад цяжарам чужога панавання. Мара аб тым, каб вярнулася да беларусаў іх сапраўдная гісторыя. Нарэшце, мара аб святле, якое будзе жывіць кожную чалавечую душу і даваць ёй духоўную вышыню.

...Я гартаю гэты прыгожы альбом і ўзгадваю шматлікія выставы, дзе выстаўляліся тыя ці іншыя карціны. Бачу твары людзей, што прыйшлі, каб паглядзець светлыя нават у сваёй трагедыйнасці творы мастака. Бачу фатакарткі нашых сучаснікаў – яны нібы "падсвечваюць" карціны знізу (цікавы мастацкі прыём: нібы кінастужка разгарнулася паралельна з мастацкімі творамі). Сярод іх незабыўныя Яўген Кулік, Міхась Раманюк, Мікалай Улашчык. Ёсць і архіўныя фатакарткі, дзе навек засталіся твары землякоў, а найперш – родных мастака.

І паэта.

Бо паэт Алесь Мара таксама прысутнічае ў гэтай унікальнай Аўтаманаграфіі. Яго гарачыя словы аб вялікіх продках, яго прачулыя радкі аб роднай зямлі таксама даюць карцінам дадатковую "падсветку." А можа, і наадварот: карціны асвятляюць паэтычныя радкі, ствараючы незабыўную атмасферу спляцення высокага мастацтва і высокага жыцця.

У Аўтаманаграфіі ёсць такія радкі:

***Як нічога не лясьнецца,***
***размалюю я прасніцу,***
***Не хапае паперы –***
***размалюю я дзьверы.***

Сапраўды, гэты вобраз шматпланавы. Мастак, нягледзячы ні на што, будзе служыць прыгажосці і праўдзе. Няма выйсця – ён знойдзе яго ў прыгажосці, у служэнні ідэі і стане размалёўваць хоць бы і дзверы, тым паказваючы Шлях. І тое, што ён раіць маладым мастакам, ёсць ягоны ўласныя, часам надта горкі, але заўсёды ў рэшце рэшт пазітыўны досвед: "Часта да мяне прыходзяць студэнты – мастакі і прызнаюцца ў тым, што нікому не патрэбныя: карціны не купляюцца, майстэрняў не выдзяляюць, грошай на фарбы, пэндзлі ўзяць няма дзе. Я кажу маладым мастакам, што трэба выкарыстоўваць усе зручныя моманты: выставы, паездкі за мяжу і г.д, каб выжыць. Яшчэ раю: калі сумны настрой, пачуццё безвыходнасці, — працуйце. Праца – гэта тэрапія, гэта выйсце... Калі няма фарбаў, няма бялілаў – працуйце алоўкам! Галоўнае – мець у сабе зарад творчасці..." (інтэрвію ў газеце "Сям'я", 1998 г.)

Ён сталеў разам з нашым пакаленнем. Яго карціны ўбіралі ў сябе тое, што паступова выходзіла з сутарэнняў гістарычнага забыцця. І таму заўсёды былі адкрыццем.

Яго першы партрэт "Бабка Марыля" 1973 году быў таго сапраўднага нацыянальнага погляду і мастацкага захаплення, які даецца толькі спалучэннем таленту і любові.





# Жыве Беларусь, покуль мы не знямелі...

Вось чаму ён адразу быў заўважаны і набыты Беларускім дзяржаўным мастацкім музеем. Затым, як наступная прыступка, з'явіўся партрэт Алаізы Пашкевіч ( Цёткі), названы радком з яе верша "Нас кавалі ў пламенні", пасля быў створаны партрэт Францішка Скарыны. Росквіт яго "партрэтных" здабыткаў прыйшоўся на 80 - я гады – гэта "Мікола Гусоўскі", "Іван Луцкевіч", "Рагнеда", "Вінцэнт Дунін – Марцінкевіч" "Кастусь Каліноўскі", "Кірыла Тураўскі" і многія іншыя.

З таго часу і да дзён, калі ў пісьменнікаў гвалтоўна быў адабраны пабудаваныя на іхнія грошы Дом літаратара, у ім вісеў цудоўны твор "Вітаўт Вялікі." Колькі каля таго партрэту было прачытана вершаў, колькі паэтаў натхняліся вобразам вялікага ваяра Беларусі! Менавіта пад уражаннем твора А. Марачкіна пачала я тады на тэлебачанні серыю перадачаў "Спадчына", дзе не раз паказвала гэты ягоны твор, як і іншыя карціны.

Але ўсё ж самай любімай з гэтай серыі з'яўляецца для мяне карціна "Рагнеда." Там - не проста вялікая княгіня Кіеўская Гарыслава, і не Рагнеда Полацкая, і не Анастасія Заслаўская - іпастасі Рагнеды. Там - Маці і Сын. Сын, кніжнік Ізяслаў, які глядзіць у Бясконцасць, які быў празваны Кніжнікам і якому яна перадала сваю любоў да Беларусі. Яна, гэтая праца, увасобленая на каляндарыку, была на маім пісьмовым стале, калі я пісала сваю трылогію "Альгердава дзіда.", яна натхняла мяне вычынам жанчыны, якую не ўдалося зламаць нікому. І паштоўка з намаляванага ім абразу "Маці Божая ахвяраў Чарнобыля" таксама вісіць над маім рабочым сталом, бо гэта той мастак, з якім хочацца сустракацца пастаянна. Яна ж нагадвае і пра тое, што ягоны сын Ігар, тады салдат Савецкай Арміі, пры ліквідацыі той аварыі трапіў у самае пекла, што і яго радзіму Чэрыкаўшчыну на стагоддзі наперад засыпала чарнобыльскім попелам...

Сп. Аляксей і ягонае жыццё – усё навідавоку, яно тут, у штодзённых справах дзеля Радзімы, у мастакоўскіх і грамадзянскіх клопатах.

Ды, зрэшты, мы працуем ў адным полі – полі нашай нацыянальнай культуры, існуем у агульным коле той інтэлігенцыі, якая адчувае сваю гістарычную місію – служыць свайму народу.



*А. Марачкін. Прасніца.*

Памятаю ўражанне ад персанальнай выставы Аляксея Марачкіна, якая прайшла ў 1992 годзе ў тым жа Дзяржаўным мастацкім музеі. Якая была агульная акрыленасць, душэўны пад'ём! Якім светлым бачылася будучае і як адпавядалі гэтаму настрою новыя матывы творчасці любімага ўсімі намі мастака - бель і святло ў карцінах "Насгальгія па белааму снегу", "Зімовы анёл", "Нябесныя знакі." І іншыя. Мастацтвазнаўцы тады адзначылі асаблівасць белга колеру ў Марачкіна – ён ззяе ўдзень і ціха свеціцца ўначы, а мне тады здавалася, што ўся заля ператварылася ў перламутравы палац, дзе павінны здарацца Цуды...

Сапраўды, мастак, прытым такога высокага ўзроўню, як Аляксей Марачкін, сапраўды стварае цуды. Ён здольны прадбачыць будучае, бо сягае душою ў бязмежныя прасторы Космасу. Ужо не раз пісалі пра тое, што адна з лепшых ягоных карцін "Пачвара над вёскаю" з яе сапраўды апакаліптычным настроем і да жаху адчувальным папярэджаннем чалавеку была напісаная за год да Чарнобыльскай катастрофы. Яго "Дарога" (1976 г.), дзе прадзіва дарогі, нібы схопленае ў палон не дрэвамі, а пачварнымі веліканамі, звужаецца ў цёмнай невядомасці, здаецца прадвесцем сённяшняга цярновага шляху нашай незалежнасці...

У яго шмат здзяйсненняў не толькі асабіста мастацкіх, але і грамадзянскіх. Адкрыццё і ратаванне твораў Язэпа Драздовіча, музей у Лужках, нядаўні плянэр у Бычках у гонар В. Быкава (як дзесяткі, калі ўжо не сотні, самых розных плянэраў з іх вялікай арганізацыйнай працай), і многае, многае іншае, у тым ліку тыя, яшчэ маладыя, вандроўкі па Беларусі, пасля якіх з'яўляліся карціны, а мясцовая інтэлігенцыя, выхаваная ў татальным духу адмаўлення ад свайго собскага, пачынала разумець, каля якіх сапраўдных духоўных скарбаў яна жыве.

У 2000 годзе, да 60-годдзя мастака, яго сябра і паплечнік Віктар Маркавец піша пра гэтыя вандроўкі канца 70-х. У адным з эпізодаў ён узгадвае: "Адпачылі на сене, а самай раніцай пачалі збірацца ў Вішнева, бо чулі пра ксяндза Чарняўскага, пра ягоныя беларускія пропаведзі. Хацелася ўсё гэта пабачыць, бо якраз павінна была адбыцца служба."

... Сёлета, у самы разгар сакавіцкіх снягоў і маразоў, мы, невялічкая купка пісьменнікаў, пабывалі на магіле ксяндза Уладыслава Чарняўскага., якая знаходзіцца якраз каля гэтага славутага старадаўняга касцёла ў Вішняве. Белы, як казачны карабель. касцёл амаль зліваўся з далінай, у ім у сярэдзіне будзённага дня было пустэльна і самотна. Але клапатлівы догляд быў бачны ва ўсім, і новы малады ксёндз, таксама Уладыслаў, гаварыў аб планах на будучае. Яго беларуская мова гучала надзеяй на тое, што справа кс. Чарняўскага будзе прадоўжаная. Ды толькі сёння, паколькі дэмаграфічная сітуацыя ўжо непараўнальна цяжэйшая, чымся дваццаць пяць гадоў таму, трэба ўсім нам клапаціцца пра тое, каб не пуставаў гэты храм ХУІ стагоддзя, што вырас на месцы ранейшага, з ХІУ стагоддзя — аднаго з самых старажытных каталіцкіх храмаў Беларусі. Можа, варта нашай моладзі рабіць туды пілігрымкі, а установам наладжваць экскурсіі па Вішневу Валожынскага раёна – мястэчку, адкуль родам Канстанцыя Буйла, Уладзя Станкевічанка (жонка Купалы), дзе працаваў перакладчык А. Міцкевіча Пятро Бітэль?

Бо менавіта беларуская інтэлігенцыя начале з Аляксеем Марачкіным шмат зрабіла для адраджэння былой славы Лужкоў, што на Шаркоўшчыне. Славутай стала ў мастацкім асяроддзі рака Мнюта, якой мастак прысвяціў цэлую серыю палотнаў. Ляжыць пры дарозе Лужкі – Глыбокае камень Язэпа Драздовіча, які адкрылі для гісторыі менавіта яны, сябры А. Марачкіна і яго сям'я.

Дзе тыя энтузіясты, што адродзяць Вішнева?!

Для такіх справаў перш за ўсё патрэбная любоў. А таксама мужнасць. Трэба не баяцца ісці і даказваць людзям з халоднымі, абыякавымі да культуры сэрцамі сваю праваду (у Аўтаманаграфіі, напрыклад, занатаваная атмасфера сустрэчы былога высокага чыноўніка Антановіча з інтэлігенцыяй, якая пратэставала супраць разбурэння будынку гарадскога тэатра пачатку XIX стагоддзя, дзе ставілася першая на беларускай мове опера – менавіта В. Дуніна – Марцінкевіча " Сельская ідылія"). У кароткай нататцы яскрава паказваецца абыякавасць і агрэсіўнасць таго, хто павінен быў бы па службовым абавязку дбаць пра нацыянальную культуру. Цяжка размаўляць з такімі людзьмі, цяжка ім нешта даказваць – а яны ж пры ўладзе...

Нягледзячы на ўсё гэта, трэба клікаць да стваральнай працы іншых аднадумцаў. І рабіць, рабіць, не шкадуючы сіл, самому. Ехаць, напрыклад, па слядах вясковага адраджэнца Язэпа Пачопкі, у хаце якога збіраліся Міхась Машара, Язэп Драздовіч, Базыль і Уладзімір Рабізы, напісаць пра яго прачулыя словы і тым аднавіць ягонае імя і справы. Увогуле, Лужкі – радзіма Ірыны – сталі для яго роднымі і блізкімі назаўсёды. Вось як маляўніча апісвае той жа В. Маркавец сваё знаёмства з Лужкамі: "Адразу ж на беразе паўстала ідылічная сцэна – Марачкіны пасвяць каровы. Аляксей, убачыўшы дым (нешта за Лужкамі гарэла - В.І.). пабег на пажар, а Ірына (жонка яго) засталася на лузе. Падаліся і мы ў той бок, але было бачна, што там ужо ўсё скончылася. Вярнуліся. Неўзабаве на беразе сабралася ўся сям'я. Бацька Ірыны прывёў на луг каня. А потым і маці прыйшла даіць карову. З'явіўся Аляксей – увесь перапэцканы сажай і мокры. Рэчку пераплываў у адзенні. Калі спяшаўся на пажар."



*А. Марачкін. Бычкі.*

Гэта вельмі яскравая рыса характару сп. Аляксея – спяшацца туды, дзе патрэбная дапамога, не думаючы пра сябе.

Усе гады, якія я ведаю Аляксея Марачкіна, я захапляюся яго мужнасцю. Ветліва – далікатны, рамантычны, ён, аднак, непахісны ў сваіх перакананнях і сваёй любові да Беларусі. І такая ж яго жонка Ірына, чый воблік тоненькай дзяўчынкі з наіўна – светлым поглядам з самых першых старонак Аўтаманаграфіі таксама задае агульны настрой надзеі і веры ў будучыню. І ягоныя сямейнікі – гэта не толькі блізкія людзі, але таксама аднадумцы і паплечнікі, што дадаткова характарызуе грамадзянскую пазіцыю мастака (як жа непрыемна ўражвае ў некаторых сем'ях бязвер'е дзяцей ў справу бацькоў!).

Сярод ягоных вершаў для мяне самым дарагім ёсць верш, які пачынаецца страфой, вынесенай ў загаловак:

***Пярунавы стрэлы***
***Над пушчай грымелі.***
***Жыве Беларусь,***
***Покуль мы не знямелі.***

Так, зняменне – гэта знак, што ты скораны, што ты больш не здатны на супраціўленне і пошукі Свабоды. А без свабоды – свабоды творчасці, свабоды выказвання, свабоды выбару чалавек ператвараецца ў шрубку для чарговага таталітарнага механізму, які са стагоддзя ў стагоддзе перамолвае чалавечы дух, ператвараючы чалавека ў жывёлу.

Аляксей Марачкін усё сваё жыццё рабіў тое, што павінен рабіць кожны інтэлігент, што робяць сёння лепшыя пісьменнікі, мастакі і вучоныя Беларусі: змагацца за свабоду, ствараць грамадства, дзе кожны будзе адчуваць сябе Асобай і выяўляць сябе, свой высокі патэнцыял творцы (бо кожнаму дадзена залатое зерне творчасці) — напоўніцу.

Яго дзень нараджэння нездарма прыйшоўся на першы месяц вясны, амаль побач з Днём Волі 25 сакавіка. Улада, як заўсёды, не заўважыць ні гэтага вялікага свята беларускага народу, ні сёлетні юбілей мастака і паэта.

Але няма такой улады, якая магла б выдаліць выдатнага творцу Аляксея Марачкіна з той духоўнай ауры. якая жывіць народ і ў рэшце рэшт робіць яго народам.

*Вольга Іпатава.*

# Жывуць у памяці нашай

18 сакавіка клуб "Спадчына" чарговы раз сабраў сяброў і прыхільнікаў, зацікаўленых гістарычнымі постацямі Беларусі. Вечарына ладзілася з нагоды 165-х угодкаў з дня народзінаў пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча і Альгерда Абуховіча – Бандынэлі.

З уступнай прамовай выступіў сташыня клубу "Спадчына" Анатоль Белы. Ён адзначыў, што для свядомых беларусаў, для сапраўднай інтэлігенцыі, для сяброў клубу "Спадчына" адной з першасных задач з'яўляецца вяртанне з духоўнага забыцця слынных сыноў і дачок Бацькаўшчыны. Нацыянальнае адраджэнне немагчыма без ведання гісторыі свайго краю, без шанавання тых людзей, што працавалі, змагаліся і аддавалі,нават, сваё жыццё ў гэтым змаганні. "Шукаць і знаходзіць, задумаць і здзейсніць!"—гэтыя словы могуць быць дэвізам для сяброў клубу "Спадчына" і, асабліва, для яго старшыні Анатоля Белага, бо, дзякуючы яму, "знайшоўся" Анатоль Бярозка, займае сваё месца побач з Францішкам Багушэвічам Альгерд Абуховіч-Бандынэлі.

Цікавымі, а для многіх прысутных і новымі былі звесткі аб жыцці, дзейнасці і літаратурнай спадчыне Альгерда Абуховіча-Бандынэлі, аб якіх распавёў доктар філалагічных навук, прафесар Уладзімір Іосіфавіч Мархель.

Францішак Багушэвіч і Альгерд Абуховіч былі рознымі па сацыяльнаму паходжанню і аднадумцамі ў асветніцкай працы. Яны дбалі аб станаўленні беларускай мовы і літаратуры. Асабліва знамянальны той факт, калі Багушэвіч, прачытаўшы вершы Абуховіча, указаў на недастатковую чысціню мовы. Абуховіч жа, адказваючы яму, адзначыў наяўнасць розных дыялектаў у іх гаворках: Багушэвіч карыстаўся мовай Віленшчыны, а Абуховіч - Цэнтральнай Беларусі. Альгерд Абуховіч сцвярджаў, што невядома які дыялект пераможа ў будучым.

Уладзімір Мархель паведаміў, што літаратурных твораў і перакладаў Альгерда Абуховіча –Бандынэлі захавалася мала, бо, напэўна, раздаўшы сваю маёмасць сялянам (што таксама можна лічыць station ноўчым учынкам для нашчадка графскай сям'і),ён не змог знайсці сродкаў для іх выдання.

Яшчэ прафесар быў уражаны тым, што яму быў перададзены ўнікальны матэрыял аб Альгерду Абуховічу – Бандынэлі (высветлілася, што матэрыял перадаў Анатоль Белы).

Можна сказаць, што упершыню за дзесяцігоддзі гучалі вершы, байкі і ўспаміны Альгерда Абуховіча ў выкананні студэнтаў Беларускага універсітэта куль-



*Ганаруецца Віктар Скарабагатаў*

туры пад кіраўніцтвам выкладчыка і рэжысёра Валерыя Мазынскага

Запомніліся наступныя радкі з байкі:

***"А авечкі што сказалі?***
***Іх на сход зусім не звалі,***
***А ўпісалі ў пратаколе,***
***Што "авечкам дана воля".***

Нічога не скажаш. Сучасная выснова..

Потым руплівы даследчык спадчыны Францішка Багушэвіча Уладзімір Содаль коратка расказаў аб выніках апошніх даследванняў, аб рознабаковай дзейнасці і непаўторным аўтарытэце Багушэвіча сярод яго сучаснікаў. Уладзімір Содаль перакананы, што Францішак Багушэвіч і яго асяроддзе – гэта глыбокі пласт для даследванняў, бо сабрана многа рознага матэрыялу з якім трэба працаваць. Пісьменнік быў вельмі задаволены, што змог знайсці сродкі для выдання чарговай кніжачкі "Святы той куточак фальварак Свіраны". Яе выдаў "Беларускі кнігазбор" да дня народзінаў паэта. Уладзімір Содаль з любоўю і натхненнем паўтарае словы паэта Віктара Шніпа: "Дудка грае – ён жывы".

Прадаўжэннем вечарыны была прэзентацыя карціны беларускага мастака Алеся Цыркунова , з якой Альгерд Абуховіч нібыта глядзіць на нас з тых далёкіх часоў і загадвае: "Каб словы карэнныя беларускія атрымалі як найшырэйшы ўжытак".

Барэльефы з выявамі Францішка Багушэвіча і Альгерда Абуховіча - работы скульптара Уладзіміра Мелехава – павышалі ў прысутных успрымальнасць сказанага аб паэтах.

Скульптар Аляксандр Зіменка растлумачыў сімвалічны змест барэльефа "Слуцкія ткачыхі": у руках ткачых пояс мае абрыс літары "М" (трэба разумець "Максім").

Карціна мастака Анатоля Крывенкі сімвалізуе духоўнае адзінства сяброў клубу "Спадчына" і гатоўнасць быць сваімі думкамі і справамі побач са славутым Васілём Быкавым.

Ад імя Камітэту ўшанавання медалём Міхася Забэйды-Суміцкага "Салаўю беларускага адраджэння" ганараваны прафесар кансерваторыі Віктар Скарабагатаў, які ў сваёй прамове ўспомніў значныя вехі творчасці знакамітага беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага.

Медалём Язэпа Драздовіча "За руплівасць на ніве беларускага мастацтва" ганараваны мастак Яўген Сямёнавіч Бусел. Шчырасцю і дабрынёй вее ад яго твораў. Трапнае слова прымавак і арыгінальны малюнак- фундамент твораў мастака.

Напрыканцы вечарыны прафесар Мікола Савіцкі агучыў праект запыту да ўрада Чэхіі на дазвол усталявання мемарыяльнай дошкі ці другога памятнага знаку для ўшанавання памяці слыннай беларускай паэткі Ларысы Геніюш на доме, дзе яна жыла.

Музычным аздабленнем вечарыны было выступленне самадзейнага калектыву аматараў беларускай песні ў складзе А. Капцюха., П. Ількевіча, М. Стрыгельскага. Гучала музыка, і мелодыі родных беларускіх песень напаўнялі залу і сэрцы людзей.

***"Чырванее ранні золак,***
***Рэха ў гаях ,***
***А ў грудзях тваіх асколак,***
***Беларусь мая".***

Разыходзіліся з вечарыны,спадзяючыся на новыя сустрэчы.

***Надзея Бурштын,***
***г. Менск.***

# Шахматныя эцюды па-беларуску

***Я. Дзвізаў. Міжнародны конкурс па складанні шахматных эцюдаў, прысвечаны 75-годдзю A. Foguelman, Z. Caputto, O. Carlsson "Finales... y Temas" (Аргенціна) 1998. 8 ганаровы водгук.***



У 1997 годзе ў газкце "Звязда" (шахматны аддзел пад рэдакцыяй У. Сычова) быў праведзены конкурс па складанні шахматных эцюдаў, прысвечаны 60-годдзю Я. Дзвізава. У гэтым конкурсе з поспехам удзельнічалі эцюдаісты з Аргенціны.

У адказ беларускія эцюдаісты ўдзельнічалі ў юбілейным конкурсе аргенцінскіх эцюдаістаў. Такім чынам адбыўся як бы нефармальны матч Беларусь-Аргенціна.

1.f4+! Kpg6 2.f5+1 C:f5 3.Ce4! (пагроза 3.Фg4+) c3+ 4.Kpc1! Фd7 5.Ф:f5+! (тэматычны падманлівы след: 5.C:f5+? Ф:f5 6.Фg2+! Фg5+? 7.f4! Ф:f2 8.f5+! - і белыя застаюцца ў пазіцыі пату. Абвяржэнне падманлівага следу: 6. ... Kph6! 7.Фh2+ Фh5 8. Фf4+ Фg5 -+ і чорныя выйграюць) Ф:f5 6.f4! b5 (6. ... Ф:e4 7.f5+ - = пат) 7.Cd3! b4 (7. ... Ф:d3 8.f5+! - = пат) 8. Ce4! b3 9.C:f5+ Kp:f5 = пат.

Суддзі конкурсу, міжнародныя арбітры: Harold van der Heijden (Галандыя), Eduarde M. Iriarte (Аргенціна): "Эцюд - вельмі добрае дасягненне, з 3 патамі, хаця і вядомымі карцінамі". Неабходна заўважыць, што суддзі не ўлічылі цікавы рэхатэматычны падманлівы след з чацвёртым патам і тонкім абвяржэннем, чым значна занізілі ацэнку эцюда.





## Ахвяраванні на ТБМ

1. Мікола Грышан – 4000 р., Дзятлава
2. Георгі Шундрык – 2000р., Дзятлава
3. Доўбік Аляксей – 5000 р., Карэліц. р-н
4. Чайкоўскі П. І. – 10000 р., г. Менск
5. Масалкоў В.М. – 5.000 р., г. Віцебск
6. Скрэчка Анатоль – 10000р., г. Мазыр
7. Алесь Чэчат – 10000 р., г. Менск
8. Петруковіч Васіль – 19000 р., г. Менск
9. Ляшынскі Іван – 10000 р., г. п. Шарашова, Пружанскі р-н
10. Шкірманкоў Фелікс 10000р., г. Слаўгарад
11. Хадоскін-Ігнацікаў П. 2000 р., г. Гомель
12. Валошчык Мік. – 5000 р., г. Белаазёрск
13. Грышан Мікола – 6000 р., г. Дзятлава
14. Ляскоўскі У. – 6000р., Шаркаўшчына
15. Ляскоўская З. -10000 р, Шаркаўшчына
16. Лабачэўская Людміла – 10000 р., Шаркаўшчына
17. Сікора Алег – 5000 р., Шкркаўшчына
18. Асіпенка Ал. – 5000 р., Шаркаўшчына
19. Круп Віктар – 5000 р., Шаркаўшчына
20. Козак К.С. – 2000 р., Шаркаўшчына
21. Прыстаўка В. –5000 р., Шаркаўшчына
22. Бакіноўскі Валян. – 10000 р., г. Менск
23. Выхота Валянціна – 1000 р., г. Менск

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск , 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | |
| ТБМ | | | |
| | | | |

**Касір**

Пеня
Разам

**Плацельшчык**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

Квітанцыя

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |

**Касір** **М.П.**

Пеня
Разам

**Плацельшчык**

***Рэдактар Станіслаў Суднік***

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 28. 03. 2005 г. у 11.30. Замова № 600.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1340 руб., 3 мес.- 4020руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.